

Жыве Беларусь!

# ПАГОНЯ

Грамадзка-палітычная газэта

Заснавана ў 1920 г.

№ 13 4—17 сьнежня 1992 года Кошт 1 рубель


## ПРАВАКАЦЫЯ Ў БЕЛАСТОКУ

*Як паведаміла беластоцкая «Ніва», «у Беластоку ў памяшканьні Беларускага грамадзка-культурнага таварыства скіны выбілі чатыры шыбы і ўкінулі бутэлькі зь лістоўкамі «Польшча для палякаў». На сьцяне будынка намалявалі надпіс: «Беларусы — вы сабакі — вон».*

**На Беларусі ўпершыню адзначаны ўгодкі Слуцкага паўстаньня 1920 года. На працягу месяца ў пяці валасьцях цяперашніх Слуцкага, Нясвіжскага, Капыльскага, Клецкага і Салігорскага раёнаў утрымлівалася ўлада БНР, якую бараніла ад бальшавіцкай навалы 1-я Слуцкая брыгада... У Горадні акадэмія, прысьвечаная паўстаньню, адбудзецца ў палове сьнежня.**

## АДОЗВА
### да парляманту Рэспублікі Беларусь

*Мы, удзельнікі мірнай дэманстрацыі, выступаем супраць парушэньняў правоў чалавека і Канстытуцыі Вярхоўнай Рады Беларусі.*

*Даём падтрымку БНФ «Адраджэньне» у яго змаганьні за дэмакратызацыю жыцьця ў Рэспубліцы!*

*Мы, удзельнікі дэманстрацыі, арганізаванай Беларускім Аб'яднаньнем Студэнтаў у Польшчы, выступаем супраць увядзеньня некаторымі сіламі каляніяльна-расейскай мовы як дзяржаўнай у незалежнай нібыта Беларусі!*

*Рэфэрэндум — ня выдумка БНФ, рэфэрэндум — гэта голас народу!!!*

**Варшава.**
**10 лістапада 1992 г.**

## Грошы-грошы
## УВАГА: СЬЦЕРАЖЫЦЕСЯ «БАБРОЎ»!

Вы купляеце ў краме батон варанай каўбасы або «Джека-потрошителя», сягаеце кашалька, раз-раз, дробных не хапае. Павагаўшыся, дастаяцё «зубра». Сочыце за рукамі прадаўшчыцы,— якая адлічвае вам рэшту й спакойна кладзеце грошы ў кашалёк. Дома вас чакае расчараваньне: замест зялёна-цаглянай «рысі» маеце прыблізна гэткіх жа колераў «бабра», якога бачыце ўпершыню й нават не здагадваліся, што такая купюрка наогул існуе. Можа, прадаўшчыца сама памылілася, а можа й папросту выкарыстала хвілю: 70 рублёў дармовага прыбытку — ня жартачкі!

Успамінаецца, што першымі зьявіліся зайцы, ваўкі і рысі. Потым мядзьведзі (500 рублёў), ласі (250), ваверкі (50 кап.), зубры (1000) і вось гэтыя недарэчныя бабры. Поўнае бязладзьдзе ў грашовай эмісіі. У іншых краінах адбываецца інакш: выпускаюцца ад меншай купюры да большай. Спачатку ў палякаў, прыкладам, сталася падзеяй 1000.000-злотавая паперка, а нядаўна вось 2000.000-я. А ў нас напраўду нейкі заапарк, дзе зьвяры пераблыталіся.

Крыху ўбок ад тэмы. Рэдакцыя «Балтыйская газэты» (Рыга), адчуўшы добры попыт на яе ў нас на Беларусі, пачала зьмяшчаць менскія курсы валютаў і цэны. Першага разу, як бы ня верачы, што курс бел. рубля да расейскага 1:10, надрукавалі 1:1. Потым памылку справілі. Не, хітрасьць нашага ураду, вядома, карысная. Дзякуючы ёй можна запушчаць у карыстаньне ў дзесяць разоў менш купюрак. Аднак гэта зусім ня значыць, што нам жывецца ў дзесяць разоў лепш за расейцаў, бо сваімі грашыма мы атрымліваем у тыя ж дзесяць разоў меней за іх. Вось каб гэтыя 7—10 тысяч зарплаты ды беларускімі.

А так выходзіць, што курс гэты даволі штучны. Не выпадкова ж у апошні час на буйной менскай біржы за 100 расейскіх давалі 110 беларускіх рублёў.

**М. БАБРОЎСКІ.**

## КРАДЗЕЖНІКІ МАЮЦЬ ГУСТ

У Польшчы штодня крадуць 90 самаходаў. Ад пачатку года іх скрадзена ўжо болей за 40 тысячаў. Гэта ў шэсьць разоў больш, чымсьці тры гады раней.

Існуюць цэлыя гангі крадзежнікаў. Найулюбёныя іхнія мадэлі — Ауды, БМВ, Мэрсэдэс, а таксама польскія Палянэз і Фіят — «малюх», бо ў іх вельмі лёгка ўлезьці. Дапрыкладу, адамкнуўшы задні замок Палянэзу, унутр можна дастацца за якія 30 сэкунд. Потым адразу зьмяняюцца нумары і самаход перафарбоўваюць. Прадаць яго пасьля гэтага зусім няцяжка. За папярэднія тры гады зь дзяржаўных устаноў было скрадзена 21 тысяча чыстых бланкаў шафёрскіх правоў і 23 тысячы аўтарэгістрацыйных пасьведчаньняў.

Паліцыя адшуквае толькі 40 працэнтаў скрадзеных самаходаў. Тэрмін пошукаў абмяжоўваецца трыма гадамі.

**Ал-р АЎГУСТЫНОВІЧ.**

## ДЭМАНСТРАЦЫЯ КАЛЯ БЕЛАРУСКАГА ПАСОЛЬСТВА

Рашэньне Вярхоўнай Рады Беларусі адносна рэфэрэндума і спробы ўвядзеньня расейскай мовы ў якасьці дзяржаўнай разам зь беларускай у нацыянальнай суверэннай дзяржаве не маглі не выклікаць адмоўнай рэакцыі сярод людзей, якія ганарацца тым, што яны Беларусы. Усе гэтыя захады пагражаюць тым, што й у будучыні на менскай або гарадзенскай вуліцы трэба будзе са сьвечкай вышукваць чалавека, які размаўляе пабеларуску. А калі дадаць да гэтага антыдэмакратычную практыку Вярхоўнай Рады, якая касуе правы грамадзянаў, уласны закон аб рэфэрэндуме, дык абліча Беларусі звонку выглядае ня надта прывабна.

Прадэманстраваць сваю падтрымку БНФ перад пасольствам Рэспублікі Беларусь у Варшаве дамовіліся прадстаўнікі Беларускага Аб'яднаньня Студэнтаў у Польшчы. Яны паведамілі аб тым улады й 10 лістапада а 15-й гадзіне распачалі свой мітынг. Сюды прыйшлі каля 25 чалавек з нацыянальнымі сьцягамі і лёзунгамі «Рэфэрэндум!», «Беларусь не правінцыя Расеі», «Толькі БНФ — патрыёты», «Камуніст — не беларус». Лёзунгі напачатку развесілі на загарадзе пасольства, аднак паліцыя іх пазрывала.

Прадстаўнік маніфэстантаў, студэн палітычных навук Варшаўскага унівэрсітэту Яцэк Пракапюк паведаміў прысутных пра мэту дэманстрацыі і папрасіў падпісаць ліст у падтрымку рэфэрэндума. Калі прадстаўнікі дэманстрантаў панесьлі ліст у пасольства, зьявілася чарговая група паліцыянтаў на чале з інспэктарам Веславам З., які запатрабаваў дазвол на правядзеньне мітынгу. Хаця польскі закон не прадугледжвае аніякіх дазволаў, а толькі абавязак паведаміць улады, немагчыма было пераканаць паліцыянтаў у тым, што разганяючы дэманстрантаў, яны парушаюць правы чалавека й закон. Мітынг прымусова быў скончаны, бо паліцыя пачала пагражаць ужыць сілу. Дэманстранты спакойна разыйшліся, вельмі суіняваючыся, ці карыстаецца беларуская меншасьць у Польшчы гэткімі ж самымі правамі, як і польская большасьць.

**Юрка ГРЫГАРУК,**
**студэнт V курса Варшаўскай палітэхнікі.**




**Алесь ЧОБАТ**

# ГЭНЭРАЛ БУЛАК-БАЛАХОВІЧ

**НАРЫС**

1.

Станіслаў Нікадзімавіч Булак-Балаховіч нарадзіўся 29 студзеня 1883 году ў маёнтку Мяйшты каля Відзаў на Браслаўшчыне. Атрымаў дыплём агранома. З 1905 году працаваў у Дзісненскім павеце, быў вядомы як абаронца сялянаў у зямельных спрэчках з абшарнікамі. Належаў да мясцовага адзьдзяленьня партыі сацыялістаў-рэвалюцыянэраў, якім кіраваў адвакат П. Аляксюк — між іншым, даўні знаёмы Вацлава Іваноўскага, адзін з пачынальнікаў беларускай Рэвалюцыйнай Партыі, папярэдніцы Грамады, а таксама аўтар «Нашай Нівы».

У пачатку вайны 1914 году С. Булак-Балаховіч паступае на службу «вольноопределяющимся» у Курляндзкі полк уланаў і хутка атрымвае афіцэрскія пагоны як «надзвычай адважны конны разьведчык і партызан». Да лютага 1917 году С. Булак-Балаховіч на фронце — даслужыўся да штаб-ротмістра, камандзіра асобнага дывэрсійнага атраду 2-й Кавалерыйскай дывізіі Паўночна-Заходняга Фронту.

Летам 1917 году С. Булак-Балаховіч звальняецца з арміі, паводле асобных зьвестак жыве ў Маскве і С.-Пецярбурзе, дзе аднаўляе свае сувязі з эсэрамі. Вясной 1918 году ён паступае на службу ў Чырвоную Армію, камандуе 3-м Петраградзкім кавалерыйскім палком. Летам 1918 году з прычыны разыходжаньняў па пытаньнях Брэсцкага міру ды аграрнай палітыкі ў Маскве дйшло да адкрытых баёў паміж эсэрамі й бальшавікамі. Эсэры былі выкінуты з ураду У. Леніна, выгнаныя з усіх адказных пасадаў, іх паўстаньні ў Яраслаўлі ды Рыбінску былі падаўленыя. У Сімбірску забіты камандуючы Усходнім Фронтам эсэр М. Мураўёў. У такой сытуацыі ўвосень 1918 году Балаховіч са сваім палком пераходзіць фронт і далучаецца да Паўночна-заходняй «белай» арміі.

II.

У «белых» С. Булак-Балаховіч камандуе апэрацыйнай кавалерыйскай групай, а пазьней — 2-м корпусам Паўночна-заходняй арміі. За баі пад Псковам атрымвае чын палкоўніка, а за ўзяцьце Гдова — гэнэрал-маёра. Але яго адносіны з камандуючым гэнэралам А. Юдзенічам і яго намесьнікам гэнэралам А. Радзянкам складаліся дрэнна. Апошні пісаў пазьней, што трываў гэтага «партызана» толькі таму, што апроч корпуса Балаховіча ды падтрымкі 75 тыс. эстонцаў гэнэрала Лайданэра рэальнай баявой сілы «паўночна-заходняя» практычна ня мела.

Пра ўдзел Балаховіча ў грамадзянскай вайне на баку «белых» падрабязна напісаў сябра Ураду пры арміі А. Юдзеніча сп. М. Іваноў, мэмуары якога выдадзены ў 1922 годзе ў Бэрліне: «Найбольш цяжка адказваць за сувязь з Балаховічам. Тэрытарыяльна мы працавалі разам. Маральна? У Балаховічу, гэтай найцікаўшай постаі грамадзянскай вайны, жылі два чалавекі: чалавек справы, які ўмеў увайсьці да людзкіх душаў, запаліць, павесьці, лоўка, сьмела і лёгка выканаць заданьне — і паказаць людзей эфэктна ўва ўласных вачох; у баі ўдача не адставала ад яго, другога такога ўдалага гэнэрала ня было ўва ўсёй Арміі; апроч таго, ён быў супраць рэакцыянэраў са штабу ў Нарве, і гэтым быў вельмі карысны; але па-за баямі ён неяк абмякаў, добрыя для вайны рысы характару не адпавядалі штодзённай рутыне; ён ня мог справіцца з дробязямі; як толькі яго людзі выходзілі з баёў, ён рабіўся ім пан-братам і губляў над імі ўсякую ўладу і волю — і тады горшыя элемэнты пускаліся па шляху злачынстваў.

(Заканчэньне на 6-й стар.)

# СУПОЛЬНАЯ ЗАЯВА

Вярхоўны Савет адмовіўся выканаць законнае патрабаваньне выбаршчыкаў і не прызначыў даты рэфэрэндуму аб датэрміновых выбарах. Улады Беларусі засьведчылі непавагу да народу, волю якога абавязаны выяўляць. Яны бесцырымонна пераступілі праз закон у той час, калі ініцыятыўная група рэфэрэндуму як правадзейны прадстаўнік інтарэсаў і абаронца волі 442 тыс. грамадзянаў Беларусі закон бездакорна выканала. Улады ж зламалі правы чалавека і падарвалі гэтым міжнародны прэстыж Беларусі.

Мэта былой камуністычнай намэнклятуры — выйграць час і дарэшты «прыхватызаваць» краіну. Адмаўляючы народу ў законным праве на рэфэрэндум, кіраўнічыя колы думаюць пра ўласнае ўзбагачэньне і матэрыяльныя гарантыі — коштам жабрацтва народу і страты незалежнасьці Беларусі. Але гісторыя няўмольная, падмануць яе нельга ніякай дэмагогіяй і хлусьнёй. Галоўны юрыдычны і палітычны вынік падзеі — тое, што Вярхоўны Савет з моманту галасаваньня супраць рэфэрэндуму стаў нелегітымным і незаконна захоўвае ўладу. Адстойвае законнасьць толькі дэпутацкая Апазыцыя БНФ, прагаласаваўшы за правядзеньне рэфэрэндуму і дамагаючыся перагляду бяспраўнага рашэньня.

Рэфэрэндум стаў выпрабаваньнем маладых беларускіх дэмакратычных сілаў на адзінства, на пасьлядоўнасьць і вернасьць прынцыпам сапраўднага народаўладзьдзя. Мы, паўнамоцныя прадстаўнікі партыяў і арганізацыяў — ініцыятараў рэфэрэндуму, пацьвярджаем нашу еднасьць у перакананьні, што ўсенароднае галасаваньне аб роспуску ВС і новых выбарах прафэсійнага вышэйшага органа ўлады паводле дэмакратычнага выбарчага закону — гэта рэальны, законны, мірны шлях выхаду з палітычнага крызісу.

Зыходзячы зь неабходнасьці забесьпячэньня правоў асобы, абвешчаных Усеагульнай Дэкларацыяй правоў чалавека, гарантаваных Канстытуцыяй і заканадаўствам Беларусі, мы настойваем на выкананьні законнай і належным чынам юрыдычна аформленай волі грамадзянаў Беларусі. Мы выступаем за аб'яднаньне нашых арганізацыяў дзеля каардынацыі намаганьняў у гэтым кірунку.

Лічым мэтазгоднымі супольнымі дзеяньнямі:

— стварэньне з удзелам дэпутатаў і прадстаўнікоў дэмакратычных палітычных сілаў грамадзкіх камісіяў, якія возьмуць пад кантроль ход прыватызацыі ў Беларусі і будуць ажыцьцяўляць грамадзкія расьсьледаваньні злоўжываньняў;

— вылучэньне кандыдатураў у камісіі па выбарах новых органаў улады.

Мы пакідаем аб'яднаньне адкрытым для партыяў і арганізацыяў, якія падзяляюць нашае стаўленьне да Вярхоўнага Савету як структуры, што ўтрымлівае ўладу незаконным шляхам.

**За Аб'яднаную дэмакратычную партыю Беларусі — Станіслаў ГУСАК.**

**За Беларускі Народны Фронт «Адраджэньне» — Вінцук ВЯЧОРКА.**

**За Беларускую сацыял-дэмакратычную Грамаду — Алег ТРУСАЎ.**

**За Беларускую сялянскую партыю — Яўген ЛУГІН.**

**За Беларускую хрысьціянска-дэмакратычную злучнасьць — Міхась АРЭШКАЎ.**

**За Менскі гарадзкі страйкавы камітэт — Сяргей АНТОНЧЫК.**

**За Нацыянальна-дэмакратычную партыю Беларусі — Алесь АПРЫШКА.**

**За Свабодны прафсаюз Рэспублікі Беларусь — Генадзь БЫКАЎ.**

10 лістапада 1992 г.
г. Менск.

Адам МІХНІК

# НАЦЫЯНАЛІЗМ: СОННАЯ ПАЧВАРА

***Адам Міхнік — адзін зь лідэраў дэмакратычнай апазыцыі ў Польшчы часоў Гамулкі, Гэрэка і Ярузэльскага. Быў адным зь ідэёлягаў польскай «Салідарнасьці», сядзеў у турмах. Увосень 1988 году вылучыў ідэю «круглага стала» ўлады і апазыцыі з мэтай ажыцьцяўленьня ў Польшчы бяскроўнай дэмакратызацыі краю й зьмены палітычнага ладу. Сягоньня — рэдактар найбуйнейшага польскага пэрыёдыка «Газэта Выборча». Гэты артыкул упершыню надрукаваны нямецкім часопісам «Шпігель».***

Нацыянальны канфлікт у Югаславіі — гэта малая частка падобных праблемаў ува Ўсходняй Эўропе. Адзін мой знаёмы сэрб напомніў мне выказваньне Ф. Грыльпарцэра пра тое, што перамога нацыяналізму над гуманізмам адкрывае тыранам шлях да ўлады. Гэтае папярэджаньне для любога з нашых народаў застаецца актуальным.

У краінах Усходняй Эўропы сапраўды адбываецца рэвалюцыя. Пакаёвая, «аксамітная», якая хочаце, але рэвалюцыя. А кожная рэвалюцыя ў сваім разьвіцьці мае азначаныя фазы. **Пасьля барацьбы супраць папярэдніх структураў улады абавязкова пачынаецца барацьба за ўладу паміж пераможцамі.**

У пачатковы пэрыяд рэвалюцыі апазыцыю яднае агульная ідэялёгія, якая абмежаваная лёзунгам «Свабода замест дыктатуры!». Калі чалавек імкнецца да свабоды для сябе, свайго народу альбо свайго руху ці партыі, яго задавальняюць лёзунгі ўсеагульнай свабоды, талеранцыі да іншадумцаў, гарантыі правоў меншасьці. Толькі пазьней унутры самой апазыцыі пачынаецца дыскусія: пачынаюць фармавацца розныя ідэялягічныя плыні.

Камунізм заўжды прэтэндаваў на ролю ўнівэрсальнай дактрыны, таму пасьля яго развалу застаецца пустэча. У гэтай пустэчы паступова зьяўляюцца прывіды мінулых эпохаў: ксэнафобія, шавінізм, папулізм, нецярплівасьць.

Слова «нацыяналізм», праз якое звычайна тлумачаць гэтыя працэсы, надзвычай размытае, выклікае самыя розныя асацыяцыі. Мне здаецца, што для дабра справы патрэбна ўдакладніць гэты тэрмін. Імкненьне да адраджэньня нацыянальных каштоўнасьцяў, абарона нацыянальнай культуры, змаганьне за нацыянальны суверэнітэт — усё гэта ня ёсьць нацыяналізм.

**Нацыяналізм — гэта не змаганьне за свае нацыянальныя правы, а зьнявага чужога права на захаваньне нацыянальнага й чалавечага гонару. Нацыяналізм — гэта такое разуменьне нашага сьвету, адпаведна якому народы зьяўляюцца канкурэнтамі ў барацьбе за выжываньне.**

Нацыяналізм — гэта апошняя фаза камунізму. Гэта апошняя спроба састарэлай ідэялёгіі знайсьці ў грамадзтве глебу для дыктатуры. Кім Ір Сэн, Кастра альбо Мілошэвіч ёсьць яркім прыкладам гэтага.

Адначасова нацыяналізм стаіць у апазыцыі да камунізму. Камунізм плюе на нацыянальную годнасьць народу, разбурае яго нацыянальныя традыцыі, зьнішчае яго нацыянальную незалежнасьць. У гэтым выпадку нацыяналізм ёсьць скажонай формай нацыянальнай самаабароны, і ступень гэтага скажэньня тым большая, чым мацнейшым было нацыянальнае падаўленьне. Нацыянальнае пачуцьцё несумяшчальнае зь імкненьнем пазьбегнуць адказнасьці за свае й чужыя учынкі. Нацыянальная годнасьць азначае ня толькі права ганарыцца сваім народам, але й абавязак дзяліць таксама ганьбу свайго народу.

Адно зьвязанае з другім. Калі немец ганарыцца творамі Гётэ, Гэйнэ ці Томаса Мана, хоць і ня ён гэта напісаў, то ён павінен адчуваць і сваю віну за злачынствы Гітлера, Гімлера, Гэбэльса, хоць асабіста ён у гэтым ня ўдзельнічаў, — гэта і ёсьць прынцып адказнасьці.

Нацыяналізм — гэта спосаб пазбавіцца ад адказнасьці за мінулае. Вінаватыя заўсёды «чужыя» — гэта перакананьне любога нацыяналіста. Нацыяналізм — гэта спосаб стварыць такі вобраз свайго народу, у якім ня было б нават месца «іншаземцам». Нацыяналістычнае мысленьне робіць магчымым перасьледаваньне касмапалітызму ў культуры альбо абмежаваньне ў правах грамадзянаў габрэйскага паходжаньня. Нацыяналізм бярэ на ўзбраеньне лёзунгі накшталт «Расея для расейцаў!», «Польшча для палякаў!», «Балгарыя для балгараў!». Нарэшце, нацыяналістычная дактрына праміком вядзе да пагромаў, пра гэта сьведчыць кроў забітых у румынскай Трансыльваніі вэнграў.

За гэтымі зьяўнымі толькі цяпер нацыянальнымі эмоцыямі паўстае пытаньне: якім шляхам пойдзе рэвалюцыя ў той ці іншай краіне Усходняй Эўропы? Адны групы імкнуцца «вярнуцца да Эўропы», іншыя — «вярнуцца да каранёў».

Адно другому не абавязкова супярэчыць. Аднак гэтыя мэты супрацьстаяць адна другой зь цягам разьвіцьця канфлікту. У слабаразьвітым грамадзтве, дзе грамадзяне церпяць ад комплексу няпоўнаспраўнасьці праз адсталасьць краіны, звычайна ёсьць дзьве партыі інтарэсаў. Адна імкнецца дагнаць багатую лібэральную Эўропу, другая хоча выпрацаваць свой уласны, часцей за ўсё супрацьлеглы шлях. Нацыяналізм пры гэтым робіцца ідэялягічнай зброяй антыэўрапэйскай партыі.

**Расейскі нацыяналізм праяўляецца ў імпэрскіх пасяганьнях, але можа праяўляцца таксама як ізаляцыянізм. Такія «ізаляцыяністы» могуць нават пагадзіцца з незалежнасьцю, напрыклад, Летувы, але на такіх умовах, каб усе «инородцы» пакінулі Расею.**

**Расейскаму нацыяналісту патрэбная чыстая Расея — без летувісаў, габрэяў, армянаў, узбекаў з аднаго боку, і без касмапалітаў і масонаў з другога. Ён ня надта ўпэўнены, хто ж такія масоны, але перакананы, што гэта нешта такое, што зьвязанае з Эўропай і з габрэямі. У Эўропе ён бачыць галоўнага ворага.**

Цяпер часта гавораць, быццам бы ў Расеі зноў разгаралася сварка славянафілаў з заходнікамі. Ня веру. У Расеі я бачу спрэчку дэмакратаў, айцом духоўным якіх быў Андрэй Сахараў, з чорнасоценцамі. Па сутнасьці спрэчка банальная: адны лічаць, што камунізм разбурыў элементарныя правы чалавека, а другія — што гэта чужая, нямецкая, жыда-масонская й касмапалітычная ідыялёгія.

У кожным посткамуністычным краі ёсьць свая чорная сотня, чый сьветапогляд такі ж просты і ясны, як той, які навязалі грамадзтву камуністычныя правадыры. Менавіта таму гэты сьветапогляд так лёгка пераконвае людзей, якія дажылі да канца яшчэ ўчора нібыта непахісных камуністычных догмаў.

**У Польшчы няма палітычнага канфлікту паміж правымі й левымі. Дый тэрміны гэтыя страцілі сэнс. У Польшчы йдзе барацьба прыхільнікаў «адкрытага» грамадзтва з прыхільнікамі ідэі «каталіцкай дзяржавы польскага народу», дзе няма месца для «непалякаў». Для прыхільнікаў першай ідэі народ — гэта культурная супольнасьць, для іх супраціўнікаў — гэта супольнасьць па крыві.**

Мы часта ўяўляем сабе канец камунізму як адно вялікае сьвята. Цяпер жа мы ўбачылі, як ад подыху свабоды прачынаюцца й выпаўзаюць з падполься спрахнелыя пачвары. Мы верым, што нацыянальны экстрэмізм ёсьць перажыткам мінулага, што ён страціў папулярнасьць. Мы верым, што разьвіцьцё нашых краінаў пойдзе дэмакратычным шляхам...

**А што, калі мы памыляемся?**

# ПРА ПАМЫЛКІ ПАНА АДАМА

Тое, пра што папярэджваў А. Міхнік два гады таму назад, адбылося. Распадаецца СССР, дзе ідуць тры вайны, а на падыходзе чацьвёртая, няма Югаславіі, блізкі распад Чэхаславаччыны. Аказалася, што нацыяналізм сапраўды ня ёсьць перажытак, але наадварот — вядучая палітычная плынь у Усходняй Эўропе.

**Нам у Рэспубліцы Беларусь варта было б крыху ўдакладніць пададзеныя вышэй характарыстыкі расейскага й польскага нацыяналізму. Сапраўды, расейскаму нацыяналісту, — ці гэта камуніст Макашоў, ці хрысьціянскі дэмакрат Аксючыц, ці лібэрал Станкевіч — патрэбная вялікая Расея. Але памылкай будзе атаясамліваць яе з расейскай Фэдэрацыяй. У мэнталітэце расейца за стагодзьдзі забіта, як цьвікамі: Расея канчаецца там, дзе стаіць апошні казачы патруль альбо савецкі танк. Пры гэтым зусім неабавязкова, каб яна была «чыстай», без «инородцев». Больш таго — сучасны расейскі нацыяналізм адкідае ўзаемную рэпатрыяцыю: расейцы ў Расею, іншаземцы прэч! Гэты нацыяналізм мае рэваншысцкі характар. Лёзунг «Возродим Россию!» азначае адраджэньне былой імпэрыі ў памерах, блізкіх да 1 жніўня 1914 году. Іншая справа, што час зьмяніўся, што цяпер адкрытая інтэрвэнцыя нявыгадная, таму гаворка йдзе пра «агульную рублёвую прастору, празрыстыя межы, агульную інфармацыйную ды культурную прастору, бліжняе замежжа, адзіную расейскую мову для Садружнасьці й г. д.». Гэта словы міністра замежных справаў Расеі Андрэя Козырава.**

**Пан Адам забыў дапісаць, што расейскі нацыяналізм ніколі не праяўляўся на тэрыторыі менавіта Расеі — гэты нацыяналізм заўсёды меў ясна акрэсьлены наступальны характар. Няма падставаў меркаваць, што сутнасьць яго за пэрыяд 1914—92 гадоў хоць у чымсьці зьмянілася.**

Польскі нацыяналізм сапраўды грунтуецца на ідэі «каталіцкай дзяржавы аднаго народу» — зразумела, польскага. У палякаў моцна разьвітае адчуваньне «польскасьці», куды ўваходзяць ня толькі прыналежнасьць чалавека да польскай культуры, але й яго «карані», паходжаньне, «касьцельная мова», пашпартныя дадзеныя, энтымалёгія прозьвішча й г. д. Класічны польскі нацыяналізм у чымсьці падобны да нацыяналізму габрэйскага: калі паслухаць, дзе й колькі ёсьць на сьвеце палякаў, можа скласьціся ўражаньне, што іх больш, чым кітайцаў...

**Польскі нацыяналізм менш агрэсіўны, чым расейскі, але больш грунтоўны, больш трывалы й цьвёрды. У палякаў Польшча там, дзе стаіць касьцёл з польскім ксяндзом — які гэта край, хто тут жыве яшчэ, чыя там цяпер улада, пакідае пана польскага нацыяналіста глыбока абыякавым.**

Так што й наконт нацыяналізму польскага пан Адам таксама забыўся, што ён тым мацнейшы, чым далей ад мяжы Польскай Рэчы Паспалітай. Таму польскія саюзы на Беларусі й Летуве, напрыклад, куды больш агрэсіўныя ў сваіх выказваньнях, патрабаваньнях і «неафіцыйнай» дзейнасьці, чым учарашнія й цяперашнія ўлады Рэспублікі Польшча.

Падсумоўваючы сказанае вышэй, беларус заўсёды пагадзіцца з тэзай Адама Міхніка, што «нацыяналізм — гэта такое разуменьне нашага сьвету, адпаведна якому народы зьяўляюцца канкурэнтамі ў барацьбе за выжываньне». Але да сутнасьці тае тэзы беларус адносіцца не адмоўна, але станоўча — таму што цэлы лёс гэтага народу ёсьць барацьба за выжываньне паміж мілітарна-палітычным ціскам з Усходу ды рэлігійна-культурным ціскам з Захаду. **Нацыяналізм — гэта якраз і ёсьць «змаганьне за свае нацыянальныя правы».** Іншая справа, якія палітыкі ды як навучаюць тых, хто іх слухае, адстойваць гэтыя правы. **Нацыяналізм — гэта такая ж звычайная і адвечная філязофія, як хрысьціянскае братэрства, як лібэралізм і правы чалавека. Уся гісторыя чалавецтва — гэта пошук залатой сярэдзіны, пошук кампрамісу паміж нацыяналізмам, лібэралізмам і хрысьціянствам.**

Нацыяналізм фармуе дзяржаву, хрысьціянства — мараль, лібэралізм — вольны рынак і дэмакратычныя свабоды. Адсюль відаць, што любое мэханічнае спалучэньне на практыцы гэтых трох плыняў аўтаматычна нараджае якраз тых пачвараў, на якіх скончыў свой артыкул пан Міхнік. Так, лёзунг «Бі жыдоў, ратуй Расею!», як варыянт — «Польшчу», ёсьць гібрыдам дзяржаўнага нацыяналізму й маралі. Прыярытэт правоў чалавека, асабліва багатага чалавека, над дзяржаўнымі межамі ды нацыянальнымі інтарэсамі народаў, у тым жа канкрэтных маленькіх людзей, напрыклад, фэрмэраў, ёсьць гібрыдам лібэральных тэорыяў і дзяржаўных інстытутаў. Замацаваньне маральных прынцыпаў у дзяржаўным праве, «удакладненьне» правоў чалавека, напрыклад, забарона абортаў, ёсьць гібрыдам хрысьціянскай маралі й увасобленых у законе «правоў чалавека». Усе тры гібрыды — гэта тыя пачвары.

**І ўсё ж папярэджаньне А. Міхніка пра нацыянальны экстрэмізм абсалютна слушнае. І небясьпека такога экстрэмізму будзе тым большая, чым далей будзе лічыцца перажыткам нацыянальная дзяржава; нацыянальная — гэта значыць, якая абараняе інтарэсы нацыі, чыё імя яна носіць, ды інтарэсы нацыянальных меншасьцяў, лаяльных да этай дзяржавы. Калі гэта ўжо зрабілася перажыткам, то што ж дзіўнага, што мацнее менавіта нацыянальны экстрэмізм?**

**Алесь ЧОБАТ.**

# УХВАЛА
## І ВЫБРАНЕЦКАГА ВАЛЬНАГА СОЙМУ

*1. Арганізацыя «Выбранецкія шыхты» выступае катэгарычна супраць наданьня каляніяльнай расейскай мове статуса дзяржаўнай у Рэспубліцы Беларусь. Мы лічым, што толькі ўмацаваньне статуса беларускае мовы як адзінай дзяржаўнай, забясьпечыць адраджэньне нашага народу і яго незалежнасьці.*

*2. Выбранцы не адмаўляюць паралельнага ўжываньня лацінскае графікі, што адпавядае эўрапэйскае традыцыі нашае гісторыі ды набліжае Беларусь да пэрспэктывы агульнаэўрапэйскае культурнае прасторы.*

*3. Арганізацыя выбранцаў патрабуе рэфармаваньня беларускага правапісу дзеля ягонага удасканаленьня і ачышчэньня нашае мовы ад чужацкіх расейска-бальшавіцкіх напластаваньняў і скажэньняў.*

**Прынята на І Выбранецкім Вальным Сойме ў месцы Менску 31 кастрычніка 1992 году.**

 



*Пошта*

# НАВОШТА ТЫЯ ВОБЛАСЬЦІ?

Яшчэ ў пэрыяд перамогшага сацыялізму, калі паўсюдна лунала брэжнеўскае знакамітае «Эканоміка павінна быць эканомнай» (хаця само слова й гаворыць аб гэтым), не аднойчы мільгала ў мяне думка: а чаму тады разбухаюць розныя ўстановы? Гэта шкодзіць эканоміцы.

Памятаеце, пасьля Вялікай Айчыннай у райвыканкаме, напрыклад, быў старшыня, сакратар, конюх пры кані ды тарантасе, райзо, райфо (дзьве-тры асобы), райана (адна-дзьве асобы), яшчэ аддзьдзел культуры (адна-дзьве асобы). Не прайшло і 30 гадоў, як штаты райвыканкамаў павялічыліся амаль што ў столькі ж разоў. Адно ўпраўленьне сельскай гаспадаркі дасягнула звыш 50-ці спэцыялістаў — калгасных, саўгасных нахлебнікаў. А райана? Быў калісь загадчык, інспэктар, бухгалтар... А зараз? О-го! Хоць асобны будынак узводзь. І па іншых адзьдзелах райвыканкама прайдзіцеся. Тое ж самае. Процьма супрацоўнікаў.

Вырасьлі органы ўлады колькасна. А як наконт якасьці? Чымсьці займаюцца, штосьці пішуць, кудысьці тэлефануюць... І вось апошні званок. Прыйшлі да краху. А яны ж усе зарплату атрымліваюць, ды не абы-якую. Дый раёны бываюць розныя. Вось на Гомельшчыне ёсьць буйныя раёны і малыя. Аднак штаты райвыканкамаў амаль аднолькавыя.

У пэрыяд хрушчоўшчыны было аб ´яднаньне малых раёнаў. Але затым зноў зьявіліся малыя раёны. Пасьля ж Чарнобыльскай аварыі многія раёны зноў паменшыліся. Прайшло звыш шасьці гадоў, а райвыканкамы ў тым жа складзе ня толькі існуюць, але атрымліваюць у 2; 1,5; 1;3 вышэйшую зарплату. І нікому ў галаву не стукае, каб «эканоміка была эканомнай», каб аб ´яднаць малыя раёны. Усё думаюць. А грошы ляцяць, як тое лісьце ў час лістападу.

Ды навошта гэтыя раёны? Ці ж не варта замест іх стварыць уезды ці паветы? А то яшчэ сельскі Савет народных дэпутатаў. Як у нас зараз? Дзе саўгас, там Савет. Зрэдку на дзьве гаспадаркі адзін Савет. І жылі «гаспадарнікі» як рыба ў вадзе. І не разьбярэш, бывала, дзе ўлада савецкая, а дзе ўлада гаспадарніка. Ды тым ні менш, у тых ці іншых абставінах гаспадарнікі зь вялікай ахвотай ішлі на савецкую работу. І зацішней, дый заробак амаль той жа. Чаму б не зрабіць так, каб адзін сельскі Савет быў на 3—5 гаспадарак? Гэтым самым ня толькі павысілася б роля выканаўчай улады на месцы, але і аўтарытэт.

Альбо ўзяць вобласьць. Во які гмах! Во колькі адзьдзелаў і пададзьдзелаў! А люду колькі ў іх. Усе штосьці робяць. Перапісваюць паперкі. Бюракратыю размнажаюць... І навошта гэтыя вобласьці? Было ж іх у Беларусі адзінаццаць. Стала шэсьць. Ня горш, а яшчэ лепш будзе, калі наогул вобласьці зьнікнуць. Вунь колькі сродкаў зэканоміцца. І дабрабыт людзей палепшыцца і на ахову здароўя, і на народную асьвету, культуру, фізкультуру і спорт адваліцца ладны «падсмажаны аладак».

Дык якая ж павінна быць эканоміка? У дзяржаве самастойнай, якая стала на шлях барацьбы за лёс яе грамадзян...

**Ул. ГАРАНЧУК.**

# ГАРАДЗЕНСКІ ГУБЭРНАТАР МУРАЎЁЎ-ВЕШАЛЬНІК

**ПРА ТОЕ, ЯК НІШЧЫЛІ НАШУ СЬВЯТУЮ ВУНІЯЦКУЮ ЦАРКВУ І НАСАДЖАЛІ РАСЕЙСКАЕ ПРАВАСЛАЎЕ, ПРЫ ДАПАМОЗЕ ЯКОГА АЖЫЦЬЦЯЎЛЯЛАСЯ ГВАЛТОЎНАЯ РУСІФІКАЦЫЯ БЕЛАРУСКАГА КРАЮ.**

**(Заканчэньне.**
**Пачатак у № 11).**

ТРЭБА сказаць, што вуніяцкая царква, якая зьяўлялася сапраўднай народнай царквой, таксама не была аднароднай. Сярод вышэйшага вуніяцкага духавенства былі пракаталіцкая і прарасейская партыі. Пракаталіцкую палітыку перш за ўсё праводзілі манахі Базыльянскага ордэна. Таму Мураўёў запатрабаваў скласьці на іх асобны сьпіс, па якому ў губэрні было 16 базыльянскіх кляштараў і 122 манахі. Такая вялікая ўвага губэрнатара да спраў рэлігіі была зусім не выпадковай. У той час рэлігія была моцным чыньнікам масавай сьвядомасьці. Чалавек адукаваны вызначаў свае духоўныя і грамадзянскія каардынаты перадусім праз прыналежнасьць да той ці іншай канфэсіі. А царкоўная арганізацыя была больш надзейным сродкам кантролю над народам, чым бюракратычна-адміністратыўная сістэма ўлады.

Далей губэрнатар загадаў гродзенскаму паліцмайстару прадставіць яму сьпісы пражываючых у губэрні праваслаўных. Гэтыя сьпісы былі падрыхтаваны 31 ліпеня. У губэрні ў той час было 2230 праваслаўных жыхароў (без беластоцкай акругі). Прычым канчаткова аселымі зь іх былі толькі 274 чалавекі, зь іх ваенных і паліцэйскіх чыноў — 846, грамадзянскіх чыноўнікаў зь сем ´ямі — 276 чалавек, астатнія 834 былі часова пражываючымі. У самой Горадні было 340 праваслаўных, зь іх толькі 15 чалавек жылі тут пастаянна. Паколькі насельніцтва губэрні складала больш за паўмільёна чалавек, дык праваслаўных было ня больш як 0,5% ад агульнай колькасьці. Аналіз прозьвішчаў дазваляе сцьвярджаць, што амаль усе яны былі выхадцамі з расейскіх земляў. Менавіта яны складалі станавы хрыбет расейскай адміністрацыі ў губэрні.

Безумоўна, што пры такім канфэсійным складзе насельніцтва Мураўёў павінен быў вырашаць трыадзіную задачу: аслабленьне каталіцкага касьцёла, пераўтварэньне вуніяцкай царквы, умацаваньне праваслаўя. Цікава, што пераход людзей з адной канфэсіі ў другую разглядаўся як палітычная справа. Так, у верасьні 1834 года Мураўёў даведаўся, што некалькі праваслаўных жыхароў Слоніма перайшлі ва ўніяцтва. Гэта былі сем ´і асеўшых там адстаўных салдатаў. Губэрнатар загадаў правесьці разьбірацельства і строга пакараць вінаватых.

Другі выпадак адбыўся ў Слонімскім павеце з сялянамі вёсак Вяда й Тупічыцы, якія таксама перайшлі з праваслаўя ў вунію. Праваслаўны сьвятар Ціхановіч данёс Мураўёву, што сялян сьхіліў да гэтага мясцовы войт Міхаіл Сарачынскі. Губэрнатар загадаў: «Отстранить от должности и посадить в острог для дальнейшего распоряжения». Аднак губэрнскі «уголовных дел стряпчий» Керлічыхін, які дасьледаваў справу, даносіць Мураўёву, што войт тут ні пры чым і «не одни вядские и тупичицкие крестьяне допустились в заблуждение». Высьветлілася, што сяляне выконвалі праваслаўныя абрады, але на споведзь хадзілі ва ўніяцкую царкву. Мураўёў загадаў Керлічыхіну «иметь неослабное наблюдение, чтобы означенные крестьяне впредь ни под каким предлогом не уклонились от православной веры».

Пасьля «увещевания» губернскіх улад сяляне палічылі за лепшае «благодарить всемогущего бога за попечение начальства над ними на путь истинный». Цікава, што гэтыя вёскі былі зьвернуты з вуніі ў праваслаўе пасьля далучэньня да Расеі, у 1800 годзе вярнуліся ў вунію, а ў 1821 годзе зноў былі зьвернуты ў праваслаўе.

У жніўні 1834 года Мураўёў атрымаў данос вуніяцкага сьвятара Качаноўскага на ваўпянскага ксяндза Філіповіча, што той пераманьвае вуніятаў у каталіцтва. Але пасьля разьбірацельства гэтай справы ваенны начальнік ваўкавыскага павета Сьцяпанаў далажыў губэрнатару, што Філіповіч не вінаваты. Проста ў дзяцей памёр бацька-вуніят і яны хадзілі ў касьцёл з маці-каталічкай. Вось так перасякалася звычайнае сялянскае жыцьцё і вялікая палітыка, вельмі далёкая ад гэтага жыцьця.

ВЯСНОЙ 1832 года Мураўёў правёў поўную рэвізію вуніяцкай царквы, пасьля чаго пісаў дзяржаўнаму стац-сакратару Блудаву, які ведаў справамі рэлігіі ў царскім урадзе, што «в багослужении и во внутреннем устройстве церквей явное пренебрежение к коренным греко-российским обрядам и пристрастие ко всему католическому». 9 сакавіка 1834 года віленскі гэнэрал-губэрнатар Даўгарукаў атрымаў загад міністра ўнутраных спраў аб ліквідацыі чатырох базыльянскіх кляштараў: Геліянаўскага у Віленскай губэрні і Наваселецкага, Ражаноўскага і Дарэўскага ў Гродзенскай. 25 сакавіка выйшаў загад аб закрыцьці Лаўрышаўскага, Цяперскага і Браслаўскага кляштараў. 11 сьнежня таго ж года Мураўёў атрымаў прадпісаньне зачыніць жаночы і мужчынскі кляштары ў Навагradку і жаночы ў Воўпе.

**(Заканчэньне на 7-й стар.)**

*ПАДЗЕІ*

# ВЯЧЭРНІ ВІЗІТ У ГОРАДНЮ

**СПРАВАЗДАЧА Ў ПЫТАНЬНЯХ**

Будзёнай справай стала, калі ў наш горад прыязджаюць шматлікія бізнэсмэны з розных краінаў сьвету і спрабуюць наладзіць эканамічныя стасункі на Гарадзеншчыне. Зараз час іншы. Аднак ня так часта здараюцца падзеі, калі Горадню наведваюць афіцыйныя дзяржаўныя дэлегацыі. Так, 18 лістапада з афіцыйным візітам у нас гасьцявала прэм ´ер-міністар Польшчы Ханна Сухоцка. Праўда, у першай палове дня яна наведала Менск, дзе сустракалася з кіраўнікамі ўраду Рэспублікі Беларусь. Аб гэтым шмат пісалі беларускія газэты.

У Горадні карэспандэнту «Пагоні» давялося прысутнічаць на сустрэчы прэм ´ер-міністра з польскай меншасьцю на Беларусі, якая адбылася ў зале вабласнога драматычнага тэатра. У гэты вечар сюды з ´ехаліся ня толькі прадстаўнікі польскіх суполак з Гарадзеншчыны, але і з усяе Беларусі.

У сваёй уступнай прамове пані Сухоцка выказала хваляваньне ад гэтай першай сустрэчы ў Горадні з палякамі, якія жывуць на Беларусі, запэўніла прысутных, што ўрад Польшчы будзе і надалей клапаціцца аб іх і іхніх праблемах, высока ацаніла ролю Саюза палякаў у Беларусі, які вядзе значную работу па адраджэньню польскай культуры, і прапанавала, каб сустрэча мела больш плён, праводзіць яе ў форме размовы.

Вось, дарэчы, значная частка тых пытаньняў, што былі зададзены прэм ´ер-міністру ў гэты вечар. Вядома, іх было болей.

— Прашу зьвярнуцца да польскай прэсы, каб журналісты паехалі і паглядзелі, ў якім стане знаходзіцца Беларуская культура ў Польшчы на беласточчыне і потым параўналі, што адбываецца ў нас.

(Заўвага аўтара: гэта было адзінае пытаньне замежнага грамадзяніна спадара Прушынскага, на якое пані Ханна Сухоцка адказала адразу.— «Прэса ў Польшчы незалежная і я ёю не кірую».)

— Вельмі прашу, каб паспрыялі ў адкрыцьці польскіх школак у Навагradку, на Радзіме Міцкевіча, бо нашы дзеткі, якія зараз ходзяць у першы клас, пасьля сканчэньня чатырохгодкі ня маюць пэрспэктывы ў будучыні. І яшчэ. Вельмі былі б удзячны, калі б палякі на Навагradчыне маглі глядзець польскае тэлебачаньне. Гэта будзе для нас значнай дапамогай.

— Сама нарадзілася ў Польшчы, але вось ужо тры гады, як жыву ў Беларусі, сюды выйшла замуж. Калі ўрэшце польскі урад пачне ўспрымаць ролю палякаў тут не як «Палёніі»? Калі наступіць нейкае прасьвятленьне ў тым, што мы тут не госьці і не прыехалі сюды ў эміграцыю? Тут жывуць палякі ад самага пачатку польскай дзяржаўнасьці. І зараз тут існуе польскае таварыства, адкрываюцца школкі. Гэта ўсё добра, але гэтага замала. Ні ў польскай прэсе, ні ад урада Польшчы не чуваць пацьверджаньня, што тут жывуць палякі. Тут я вельмі часта спатыкаюся з варожасьцю ня толькі да тутэйшых палякаў. Але і да людзей, якія прыязджаюць з Польшчы. Дарэчы, ніхто ў сьвеце не прымае нас з варожасьцю, гэта парадокс.

— Адчуваем вялікую патрэбу ў ксяндзах з Польшчы. Ніхто ня скардзіцца на тое, што ў цэрквах служба вядзецца па-расейску. Аднак апошнім часам адчуваем незадавальненьне, што у касьцёлах імша адпраўляецца па-польску. Ці можам спадзявацца на тое, што ксяндзоў з Польшчы будзе прыязджаць болей і іх умовы жыцьця тут значна палепшацца?

— Ці магчыма наладзіць трансьляцыю польскай праграмы на ўсю Беларусь, а беларускай на Польшчу?

— Працую ўжо больш як паўтары гады ў Беларусі і павінен найперш не пагадзіцца з той спадарыняй, якая казала аб варожасьці тут да палякаў. Меў некалькі прапаноў для адкрыцьця свайго бізнэсу ў Летуве і Беларусі. Але выбраў менавіта Беларусь, зыходзячы найперш зь вялікай талерантнасьці і сімпатыі, якія тут сустрэў ад беларусаў. Адна з маіх просьбаў заключаецца у тым, каб сумесным фірмам, зарэгістраваным у Польшчы, скасаваць падатак дзеля таго, каб грошы мы маглі пералічваць на карысьць мясцовай «Палоніі». І яшчэ вельмі просім знайсьці паразуменьне з беларускім урадам, каб мяжу супрацоўнікі сумесных прадпрыемстваў маглі перасякаць без чаргі.

— Ці хутка вырашыцца пытаньне з падвойным грамадзянствам?

— Ці намячаецца дапамога ад беларускага ўраду на выданьне польскамоўных газэт і часопісаў, як гэта робіцца ў Польшчы для беларусаў?

— Мы хочам найперш адрадзіць нашу культуру. Але ў нас зусім няшмат сапраўднай інтэлігенцыі. Ці будзе і надалей канкрэтная дапамога ад польскага ўраду ў навучэньні нашых студэнтаў у Польшчы?

Падсумаваўшы ўсё сказанае пані прэм ´ер-міністар зазначыла, што чакала ўсё ж не такіх пытаньняў... Аднак яшчэ раз запэўніла беларускую «Палёнію», што гэты ўрад ад самага пачатку яго ўтварэньня сьвядома разумее ўсе праблемы палякаў, якія жывуць за мяжой. Да таго дадала, што ўсюды, дзе не бывае, стараецца вырашаць іх. Наконт таго, што патрэбна прымаць нейкую спэцыяльную дэкларацыю, што тут жывуць палякі, ня мае сэнсу, паколькі вырашаць канкрэтныя справы патрэбна іншымі мэтадамі. І польскі ўрад стараецца вырашыць усе гэтыя праблемы, ствараючы варункі і гарантыі для нармальнага жыцьця палякаў за мяжой. І каб не быць галаслоўным, пані прэм ´ер прывяла некалькі прыкладаў. У хуткім часе, магчыма, будзе вырашана праблема з трансьляцыяй польскіх перадач ня толькі ў прыгранічных раёнах Беларусі. На будучы год польскі ўрад заплянаваў будаўніцтва яшчэ двух пераходаў на мяжы, што павінна будзе зьменшыць цяжкасьці з паездкамі ў Польшчу і Беларусь. Вядома, значнае месца адводзіцца ў адраджэньні польскай культуры адкрыцьцю новых школак. Відавочна, што міністэрства адукацыі Польшчы і надалей будзе ў гэтым дапамагаць.

Што датычыць польскага касьцёла, то гэтыя стасункі рэгулююцца дамовай, падпісанай паміж Беларусьсю і Ватыканам. І не ўрад польскі прысылае ксяндзоў на Беларусь...

У Польшчы існуюць датацыі на выданьне беларускіх газэт і гэтага пані прэм ´ер спадзяецца чакаць і ад беларускага ўрада. І ў справе з выездам дзетак на вакацыі ў Польшчу ёсьць надзеі на прагрэсіўныя зьмены.

На гэтыя і шмат іншых пытаньняў пані Ханна Сухоцка адказвала дастаткова вычарпальна і з надзеяй на лепшыя перамены. Аднак час праляцеў незаўважна. Пані прэм ´ер развіталася і шчыра жадала шчасьця ўсім на гэтай зямлі: і палякам, і беларусам, іншым людзям, якія тут жывуць. І хочацца спадзявацца, што для ўсіх іх заставіла прыемнае ўражаньне аб сабе, як сапраўдная полька, як чалавек інтэлігентны і па-эўрапэйску адукаваны, абаяльны і дабразычлівы.

Вось такія былі пытаньні. Але спыніцца толькі на іх, значыцца не сказаць усёй праўды. Мяне вельмі ўразіла тая атмасфера, якая панавала ў гэты вечар у зале вабласнога тэатра. Упершыню давялося прысутнічаць на сходзе, дзе была поўная зала тутэйшых палякаў. Сядзеў і ніякавеў зь іхняй злосьці да маладой беларускай дзяржаўнасьці. Мне заўсёды здавалася, што бацькаўшчына ў нас адна — Беларусь, нягледзячы на нашу нацыянальную прыналежнасьць. А ў гэтых людзей адчувалася адно жаданьне, каб тут хутчэй была Польшча... Я некалькі разоў заўважаў, як зьмяняўся выраз твару ў пані прэм ´ера, калі пасьля любога патрабаваньня накшталт «паболей з Польшчы ксяндзоў» несьліся апладысменты, якія амаль не пераходзілі ў авацыі. А калі нехта прапаноўваў, каб беларускае тэлебачаньне вяшчалася на ўсю Польшчу, так як і польскае на ўсю Беларусь, дык запанавала непрыхільная цішыня. Мабыць, усё гэта таксама ўразіла інтэлігентную пані Ханну Сухоцку.

А на вуліцы працягваў падаць дождж, горад, як ніколі, здаваўся вельмі цёмным. Шкада, што наша госьця так і не пабачыла яго днём. Хутка машыны накіраваліся ў аэрапорт.

**М. МІКАЛАЙЧЫК.**

 

ФОТАПОЗІРК

# АПОШНІ ПЕРАДАВІК

З пераходам да рыначнай эканомікі сталі непатрэбны дошкі пашаны. Яны зьніклі ў гарадах і сёлах, на прадпрыемствах і ўстановах. Ня стала дошкі пашаны і ў нашым гор. Скідалі, якая красавалася каля гарадзкога Савета. А як у другіх месцах?

Яшчэ ў красавіку бягучага года ашчадна зьберагаліся дошкі пашаны на чыгуначных вакзалах Ваўкавыска і Мастах, на якіх былі зьмешчаны партрэты перадавікоў. У Ваўкавыску дошка пашаны была ва ўзорным выглядзе. Партрэты каляровыя, з правай старонкі якіх вялікімі літарамі было напісана: «Честь и слава советскому человеку — человеку труда!». Тут жа асноўныя напрамкі працы калектыва, умовы сацыялістычнага спаборніцтва і вынікі працы калектываў станцыі Ваўкавыск Цэнтральны, Ліды і Лунінца.

У Мастах жа дошка пашаны была ў непрывабным выглядзе. Партрэты з часам прышлі ў непрыгоднасьць і зь цяжкасьцю можна было разабрацца, хто ж ён — перадавік.

Які ж цяпер лёс дошак пашаны ў Ваўкавыску і Мастах?

У Ваўкавыску нядаўна абнавілі партрэты. Яны, як і раней, каляровыя маюць прывабны від. Замест барэльефа Леніна прымацавалі эмблему чыгуначніка — малаток і ключ. Асноўныя напрамкі працы засталіся тыя ж самыя, умовы спаборніцтва таксама. Не абнаўляліся вынікі спаборніцтва, яны як былі, так і засталіся за першы і другі кварталы, відавочна, мінулага года.

І што галоўнае ў рабоце начальства і прафсаюзнай арганізацыі станцыі Ваўкавыска, гэта тое, што яны, пераходзячы да рыначных адносін, не забыліся славіць чалавека працы.

А як у Мастах? Тут інакшы падыход да дошкі пашаны. Партрэты аблезлыя зьнялі. Стэнд жа застаўся з адзіным перадавіком — Леніным.

За здымку: дошка пашаны ў Ваўкавыску.

І. БАРЫСАЎ




# «МЫ ПРАЛЬЕМ ВАМ КРОЎ!»

## СЛОВА ПРА ТАВАРЫШАЎ-ДАБРАДЗЕЯЎ

***Неяк зайшоў у краму на Савецкім пляцу, каб купіць хлеба. Тое, што ўчуў, уразіла на ўсё жыцьцё. Двое ўжо немаладых спадароў на увесь аддзел ганілі крамніцу за тое, што яна не жадала браць у крыкуной «нормальные советские рублі». Крамніца тлумачыла нахабнікам, што яна выконвае пастанову ўраду, але разчырванеўшыяся, як пазьней высьветлілася, савецкія пэнсіянэры-вайскоўцы й слухаць не хацелі. Яны з пенай ля рта даказвалі крамніцы, што ведаюць толькі адну дзяржаву — Савецкі Саюз.***

***Абураная паводзінамі вэтэранаў-пакупнікоў крамніца з гонарам адказала, што яна жыла й жыве у Беларусі і нікуды болей ехаць не зьбіраецца, а парадак для ўсіх адзін. Разьюшаныя пэнсіянеры ў два галасы пачалі палохаць амаль ўсіх прысутных: «Вам што, сувэрэнітэту захацелася, незалежнасьці? Паспрабуйце толькі пікнуць, мы вам ураз пральем кроў. Думаць нават пакіньце, што Саюза няма, а то інакш не даруем вам нічога, пасеем дзясяткі тысяч мерцвякоў».***

***Слухаць далей зьнявагі дурняў я ня стаў, але мне падумалася: а што, калі б вось так дзе-небудзь у ЗША ці Францыі прыезджыя эміґранты з такой непавагай аднесьліся б да законаў дзяржавы? Упэўнены, іх бы за 24 гадзіны выкінулі б за межы. А ў нас хоць бы што, зьневажаюць дзяржаву, яе сымболі, і ўсё быццам так і трэба.***

***Падобных выпадкаў усё болей і болей, то тут, то там чуюцца зьневажальныя выпады супраць дзяржавы, яе культуры, гісторыі. Вось і нядаўна быў на сустрэчы з народным дэпутатам З. У. Крупнік. Усё было добра, пакуль спадарыня Крупнік не заявіла, што яна за адзіную дзяржаўную мову на Беларусі, сваю, родную, матчыну беларускую мову. Ох і ўзьнялі крык сівыя людзі! У запале яны крычалі, што ня хочуць іншае «чужой» мовы, што мовы беларусаў нямашака, што увесь сьвет вучыць толькі рускую мову, і што нейкіх там беларусаў ніхто ня ведае і ведаць ня хоча, (а ўжо каля сотні дзяржаў прызналі нас!). Асабліва разхадзіліся двое вэтэранаў, яны з пазыцый «навуковага сталінізму» тлумачылі прысутным аб «выгодах» дзьвюхмоўя на Беларусі, а адзін, калі дэпутатка з пазіцый гістарычнага рэалізму разьнесла ўшчэнт яговыя аргумэнты, ледзь у бойку ня кінуўся, трасучы кульбай, як Васіль Іванавіч шабляй...***

***Такіх прыкладаў шмат у нашым штодзённым жыцьці. Эканамічныя катаклізмы задаюць гвалціцелям беларушчыны ўпэўненасьці й нахабства. Адчуваючы няверу грамадзян у заўтрашнім дні, яны шальмуюць народ, ідучы на ўсё, каб толькі ня даць беларусу ўсьвядоміць, што яго будучыня ў сапраўдным нацыянальным адраджэньні. Што толькі яно дазволіць быць яму на сваёй зямлі гаспадаром, стварыць духоўную, эканамічную і гістарычную спадчыну для нашчадкаў.***

Г. АСТРОЎСКІ.

## СТУДЭНЦКАЯ ВЕЧАРЫНА

Добрай беларускай традыцыяй у студэнцкім асяроддзі зьяўляюцца атрасіны. 20 кастрычніка ў Доме студэнта пры вуліцы Смычковай сабралася каля 160 беларускіх студэнтаў варшаўскіх вышэйшых навучальняў. Артыстычная частка была прадумана яе «парафраза» Грунвальдзкай бітвы. Атрасаныя былі крыжакамі, якіх атрасалі (пасьвячалі ў студэнты) старэйшыя студэнты, г. зн. вої Вітаўта.

Усю імпрэзу вёў Юрка Сульжык, бард і намесьнік старшыні БАСу. Пад музыку Вітаўта Шалкевіча, Грамады, Мроі, Крамы, Касі Камоцкай і Уліса беларуская моладзь гуляла — згодна традыцыі — да першага ранішняга трамваю.

На падобных атрасінах у Беластоку прысутнічала звыш 300 беларускіх студэнтаў.

**Уладзімір ПАЦ, г. Варшава.**



*Наўгародзкія норавы*




Калі Міхась Сачкоўскі прыехаў на сваё лецішча, ад хлеўчука засталося толькі вугольле, грады былі вытаптаныя ўшчэнт, ружы, якімі так ганарыўся перад калегамі, нагадвалі куст, над якім папрацавалі козы. Сьлёзы наплылі і засланілі зрок: за што такое? Можа за тое, што хацеў лепей жыць, мець ўласную бульбіну, цыбуліну, бурак. Сябры па працы папярэджвалі, што ў Ноўгарадзе людзі супраць, калі чалавек жадае жыць крыху інакш ад сістэмы, якую завяшчаў Ленін. І вось вынік: ўсё, дзеля чаго недасыпаў, траціў вольныя хвіліны, збэшчана, растоптана.

Міхась і раней, працуючы дырэктарам цэнтральнага вабласнога банку, ня раз задаваў сабе пытаньне: чаму гэтыя наўгародцы такія абыякавыя да ўласнага жыцьця, ім нічога ня трэба, жывуць адным днём. Калі ж ён распачаў абсталёўваць кватэру, будаваць дачу, зь яго пачалі сьмяяцца, маўляў, беларусу больш за ўсіх трэба. Але калі ў яго кватэры зьявіўся шыкоўны сэрвант, а затым канапа, сябрукі пачалі касавата глядзець ў бок дырэктара, абразьліва называючы «беларускім кулаком». Міхась спрабаваў тлумачыць,



што на яго радзіме людзі жывуць па-другому, што кожны мае сваю дадатковую гаспадарку, дзе вырошчваюць гародніну, садавіну. Такая пазіцыя была не да зразуменьня ягонаму акружэньню. Час ад часу яны зьдзекліва нагадвалі яму: няма на цябе Сталіна. Былі й тыя, хто спагадліва ставіўся да захапленьня, але іх голас амаль быў нячутны.

І вось адбылося тое, аб чым яго папярэджвалі, нехта ўначы падпаліў нядаўна скончаную будову. Выпадковасьці тут не магло быць, сам Міхась ня курыць, рабочых не наймаў, усё будаваў уласнымі рукамі, дый агню на лецішчы шчэ не разводзіў. Дзе ж шукаць падтрымку, у каго знайсьці апору?..

Ня вытрымаўшы, Міхась гэтым лістападам прыехаў да бацькоў на Пішчыну, завітаў і да мяне ў Горадню. Мы сядзелі за гасьцінным сталом, успаміналі дзяцінства, разважалі як жыць Міхасю далей. Нечакана ён разсьмяяўся і распавёў такую гісторыю. Калі пасьля інстытута па разьмеркаваньню прыехаў у Ноўгарад, яго ў госьці запрасіў галоўны інжынер Гжэльскага фарфаравага завода. Вырашыўшы, што запрасілі ў шляхетны дом, Міхась зь вялікім страхам ішоў да інжынера ў госьці. Якім жа было зьдзіўленьне, калі замест шляхетнасьці, сустрэў дзьве скрынкі гарэлкі. Пасьля некалькіх шклянак «шляхетнікі» вялі гаману пераважна аб тым, дзе хто й колькі выпіў.

Вось такі народ, сярод якога жыве звычайны беларус, які жадае штосьці мець ад жыцьця, і таму лічыцца кулаком. Пішучы пра жыцьцёвы лёс свайго траюраднага брата, я не жадаў абразіць гонар рускага чалавека. Проста хочацца, каб людзі ведалі праўду ад народзе, аб людзях, якія былі авангардам і аплотам пабудовы сьветлай будучыні...

Г. АСТРОЎСКІ.

# ГАРАДЗЕНСКІ ГУБЭРНАТАР МУРАЎЁЎ-ВЕШАЛЬНІК

(Пачатак на 4-й стар.)

Ліквідацыя базыльянскага ордэна давала магчымасьць праводзіць рашучую падрыхтоўку да звароту вуніятаў у праваслаўе. 17 жніўня было забаронена будаўніцтва храмаў неправаслаўнай веры, а вуніяцкія сьвятары не маглі болей служыць у касьцёлах, як гэта нярэдка адбывалася раней. 14 мая 1834 года Мураўёў атрымаў прадпісаньне віленскага губэрнатара Даўгарукава за № 120:

**1. Аднавіць вярод сялян-вуніятаў абрады, уласьцівыя грэка-усходняй царкве.**

**2. Забясьпечыць вуніяцкія цэрквы іканастасамі.**

**3. Правесьці строгі адбор у сьвятары і няздольных да зьменаў выключыць.**

А 6 верасьня таго ж года ў Жыровіцкай гімназіі інспэктар Гамаліцкі на адкрыцьці навучальнага года выступіў з прамовай, у якой заклікаў да скасаваньня вуніі. Гэта выклікала буйную радасьць Мураўёва, які пісаў 12 кастрычніка 1834 года Даўгарукаву: «Слово, произнесённое в Жировицах, как первый опыт истинного возрождения в стране сей древней российской народности, преданности к российскому престолу и распространения истинных понятий о началах унии с объяснением древнего существования в стране сей православия».

Мураўёў прапанаваў надрукаваць 15 экзэмпляраў «сего полезного и гениального сочинения» і разаслаць для службовага карыстаньня. У той жа дзень ён напісаў ліст Д. М. Блудаву, у якім настойліва хадайнічаў аб падпарадкаваньні вуніятаў сьвяцейшаму Сіноду, на першы раз хоць бы ў адміністрацыйным сэнсе, каб падрыхтаваць іх поўнае злучэньне з праваслаўнай царквой. 16 лістапада 1834 года Мураўёў загадаў усім павятовым начальнікам заняцца перабудовай вуніяцкіх цэркваў. У кожнай царкве павінен быў быць пабудаваны іканастас, арганы і скульптуры зьнішчаліся.

ДОБРА вядомы мэнталітэт нашага сялянства, якога нягоды лёсу прывучылі да пакорлівасьці ўладам... І ўсё ж пратэст супраць навязваньня чужой волі праяўляўся. Так, лідзкі «земский исправник» Вітэнгоф даносіў Мураўёву: «В Раковичах и Острино, где всегда большое скопление народа к богослужению и священники более образованны, разными средствами на них надобно действовать, один из них отставной воин, фанатически предан своему обряду, живет не в достатке и любим чернью своего прихода и смело сопротивляется епископу при всех его угрозах на счет нового устройства по греко-восточному обряду — то есть остринский Викентий Жеромский, а по разговорам его прихожан черни можно заметить сильное негодование по случаю каких-либо перемен в церкви... Священникам известно, что будто бы одиннадцать духовного звания новогрудского уезда посадили на хлеб по сему предмету, приготовляются к такой участи». Мураўёў паслаў у Ліду губэрнскага «уголовных дел стряпчего» Керлічыхіна, які прымусіў сьвятароў падпарадкавацца.

Той жа Вітэнгоф даносіў 2 сьнежня 1834 года губэрнатару наконт перабудовы іканастасаў: «В Голдовской церкви так мало бывает людей из черни того прихода, есть повод заметить, что в Бобровской церкви в ближнем расстоянии лежащей, еще нет иконостаса, куда теперь более обратились прихожане Голдовского прихода». Мураўёву не спадабалася залішняя разважлівасьць свайго падначаленага» «Вынужден заметить Вам неосновательность изложенных обстоятельств... не впадая в излишнюю переписку, приказываю стараться в точности исполнить возложенное на Вас предписание обустроить иконостасы и прочие духовные ценности по греко-восточному обряду. Доносить мне лишь об успехах дела». Пачатая справа была закончана ў 1839 годзе, калі царскім указам вунія была скасавана. Праўда, сам Мураўёў у той час быў ужо далёка.

АКРАМЯ рэлігіі губэрнатар імкнуўся праводзіць палітыку «обрусения» і ў іншых галінах грамадзкага жыцьця. Напрыклад, гімназіі і павятовыя вучылішчы былі выведзены з-пад юрысдыкцыі каталіцкіх манастыроў і аддадзены міністэрству асьветы. Аднак кардынальна зьмяніць напрамак адукацыі Мураўёву не ўдалося. Большасьць выкладчыкаў і вучняў складалі каталікі, якія амаль усе былі прыхільнікамі ідэі аднаўленьня Рэчы Паспалітай. У гарадзенскай гімназіі ў 1834 годзе вучылася 278 каталікоў, чацьвёра праваслаўных, 10 вуніятаў, 11 магаметан і 4 пратэстанты. Такі канфэсійны расклад цалкам адпавядаў сацыяльнай структуры насельніцтва, бо сяляне-вуніяты ня мелі магчымасьці атрымаць адукацыю, што было характэрна ў той час для ўсёй Расейскай імпэрыі.

Мураўёў цікавіўся таксама гісторыяй губэрні. У сакавіку 1833 года ён даручыў чыноўніку гарадзенскай «уголовной палаты» Кулакоўскаму «составить краткое описание обо всех существующих в городе Гродно монастырях и церквях, о времени их основания, достопримечательностях, в них находящихся». У верасьні 1834 года Мураўёў паслаў чыноўнікаў Мірановіча і Левашова ў гарады Брэст, Слонім і Наваградак для пошукаў дакумэнтаў у архівах па гісторыі гэтых гарадоў. Знойдзеныя дакумэнты адсылаліся ў Жыровіцкі манастыр. Безумоўна, што гістарычныя пошукі губэрнатара мелі сваёй мэтай даказаць «истинно-русский» характар краю.

У верасьні 1834 года Мураўёў даведаўся, што ў Брэсцкім павеце ў маёнтку Івана Грабоўскага знаходзіцца старажытны замак, які калісь належаў князю Шуйскаму, і ў гэтым замку ёсьць праваслаўная царква. Губэрнатар даручае палкоўніку Сьцяпанаву высьветліць, «в каком положении находится данная церковь, производится ли в ней богослужение и по какому обряду»... Праўда, хутка Мураўёву прыйшлося спыніць сваю дзейнасьць на гэтай ніве. 12 лютага 1835 года ён быў вызвалены ад пасады гарадзенскага губэрнатара і прызначаны губэрнатарам у Курск. Але справа русіфікацыі і зьнішчэньня вуніі працягвалася. У 1839 годзе была скасавана вунія, праз год спынена дзеяньне Літоўскага статута. Гэтая палітыка прывяла да ўзброенага паўстаньня 1863 года. І тады царскі ўрад успомніў пра Мураўёва, які быў прызначаны дыктатарам Беларусі й Летувы і патапіў паўстаньне ў крыві. Пачаўся новы, яшчэ больш жорсткі этап русіфікацыі, які працягваўся да пачатку XX стагодзьдзя.

А потым гісторыя робіць круты паварот, і ўжо маладая, але амбіцыёзная, польская дзяржава праводзіць на Гарадзенскай зямлі палітыку палянізацыі. Затым вэктар гісторыі ізноў зьмяняе напрамак. Такі вось трагічны лёс. І адзінае выйсьце з гэтага кругавароту ўсходніх і заходніх тайфунаў — аднаўленьне ўласнай дзяржаўнасьці, якая будуецца, як вядома, не на паперы, а ў сэрцах людзей. Толькі тады розныя «мураўёвы» і ім падобныя ня змогуць указваць беларусам, як ім жыць, на якой мове гаварыць і якому богу маліцца.

**С. ТОКЦЬ,**
**гісторык,**
**м. Зэльва.**

**А. САКОВІЧ.**

# У НЯВЕДАМ ́Е

**(Працяг.**
**Пачатак у №№ 7—10).**

Ванда нічога не казала, толькі горка плакала, сьхінуўшыся на ягонае плячо.

— Ня плач, Ванда,— супакойваў ён, і голас ягоны быў ласкавы й цёплы.— Сьлёзы ня вернуць Тамары. Сьлёзы — слабасьць. А ў нашым сьвеце, поўным харошых словаў і абяцанак, слабых кожны б ́е, хто толькі не палянуецца. Хіба табе навіна, што нашых людзей тысячаміператаўклі апошнімі гадамі? Нішчаць ці насьмерць калечаць. Калі ім будзе трэба, змусяць і цябе галасаваць і дзякаваць, нат за сьмерць роднага брата.

— Сева, ня трэба, не кажы мне гэтага,— жаласьліва прасіла Ванда.

— Баішся, родная,— пяшчотна казаў ён і бліжэй прытуляў да сябе.— Яшчэ б ́ецца жывое сэрца, ад жаху й болю сьціснаецца. А каб ты жыцьцё пражыла? Усю б з цябе выбілі: і жаль, і фантазію, і ілюзіі.

«Гэта ж ты аб сабе гаворыш,— думала Ванда.— Які ж ты змучаны! Каб я магла адхукаць тваё сэрца»,— хацела сказаць яна. Але не сказала нічога. Калісьці яна ведала яго дужым і непакорлівым, а гэткія словы маглі б пакрыўдзіць яго.

Ковель глянуў на сьвіцячы цыфэрблят гадзіньніка:

— Ого! — сказаў ён.— Мы з табой загаварыліся, а ўжо па другой. А трэйцяй, да відна я мушу быць у лесе.

Ён паглядзеў на гадзіньнік і сказаў так падобна да Тамары, што Ванда задрыжэла й моцна сьціснула ягоныя рукі. Спалох за ягонае жыцьцё, што й яго хтось заб ́е, як забілі Тамару, апанаваў яе.

— Сева, сьцеражыся, не рызыкуй жыцьцём.

Ейнае ўзрушэньне, ейны поўны сьлёз і жальбы голас ён зразумеў іначай.

— Дык ты за гэтыя гады не забылася на мяне? Ты мяне пастарому кахаеш? Родная мая.

Раптам ён ахапіў яе абедзьвюма рукамі й прытуліў так моцна, так блізка да сябе, што грудзём было балюча. Чула стук ягонага сэрца побач свайго, чула, як памалу гарачымі вуснамі цалаваў вочы яе, вусны, шыю. І ня важылася адпіхнуць яго. А мо й не хацела.

III

Ізноў ноч. Ванда й Ялінка ўжо колькі гадзінаў у дарозе. Праз лес. Памалу цягнецца, трасецца й рыпіць воз. Часта колькі часінаў побач возу йдуць паадзіночныя нямецкія жаўнеры. Некаторым зь іх Ванда дазваляе сесьці на воз, каб троху спачылі. Калі воз прыстоіць, яны ідуць наперад у цемру і быццам сьцені бязшумныя зьнікаюць з вачэй.

Да Ліды зь імі на возе едзе жаўнер з беларускага батальёну Хіневіч. У яго шырокія цяжкія плечы, і Ванда бачыла, як незадаволена варушыў ён імі, калі яна дазваляла каму сесьці на воз. Ен не абарочваўся й нічога не казаў: хмурны й маўклівы, ён упраўляўся зь лейцамі.

«Гэта ён з гора,— думала Ванда,— а калі ў чалавека гора, ня хочацца гутарыць».— Яна ведала, што ягоная жонка была ўцяжку на першае дзіця. Колькі дзён уперад выехала яна з сястрою на Горадзен. Пад Лідаю лучыла пад бомбы й ад страху дачасна нарадзіла мёртвае дзіця. Цяпер ляжала хворая і безпарадная ў людзей на сяле.

Сяргей Малаха даў каня й воз Вандзе; ён жа й пасадзіў на воз гэтага жаўнера.

— Да Ліды ён будзе з вамі і гэта нават лепей для вас. А там ён свайго каня й воз мае, а вы здагоніце каго з сваіх. Там яшчэ шмат нашых людзей стаіць. Цягнікі ад Ліды ня йдуць. Места дашчэнту зруйнаванае, але й абмінуць яго, каб выйсьці на Горадзен, немагчыма: вакол замінаваныя дарогі й партызаны.

Сумная й маўклівая была Ванда. Думала аб Казіку. Учора, калі яны пабачыліся, хацела сказаць яму словы суцехі аб Тамары, але Казік хваравіта скрывіўся й махнуў рукой. «Ня трэба!..» — адрывіста спыніў яе. Ялінцы ж нічога не казалі аб Тамары. Як і заўсёды, чаплялася й круцілася яна каля свайго любага дзядзькі. Ен бавіўся, жартаваў зь ёю, толькі твар ягоны выглядаў схуднеўшы і зьбялеўшы, а пад вачыма ляжалі цёмныя сіньцы. Калі ён застаўся адзін і Ванда нечакана зайшла ў ягоны пакой, яна бачыла, як стаяў ён, адвярнуўшыся да вакна, і як канвульсійна здрыгвалі ягоныя плечы. Ванда ціха выйшла з пакою. Так і стаяў перад ейнымі вачыма, самотны, у цёмным пакінутым доме... Яна ведала, што тае ж ночы ён павінен быў ісьці ў лес за Нёман. Там дзесь і Ковель.

— Вы даяцё веры Ковелю? — пыталася яна раніцою ў Малахі.

— Пэўна.

— І ня думаеце, што ён нас ізноў здрадзіць?

— Ковель — наш чалавек. Праз усе гады наш і ніколі нас ня здраджваў. Трэба мець вялікую адвагу й мужнасьць, каб рабіць тое, што робіць Ковель.

«А ў мяне ні адвагі, ні мужнасьці, ні веры»,— з сумам падумала Ванда.

Вандзе рабілася сьцюдзёна. Яна шчытней хуталася ў вялікую хустку, бліжэй прытуляла да сябе Ялінку. Малая таксама ня спала. Шырока адчыненымі вачыма ўглядалася ў цемру. Перад імі слаўся цёмны й няясны шлях. «Дзе канец ягоны? — думала Ванда.— На чужыне?»

**(Працяг будзе).**







